# Навіны пчалярства



Пчалярства роднага краю

Красавік 2022 г. № 2 (45)


## Свята

### ПАСХА



Дарагія хрысціяне!

Віншуем вас з радасным святам Пасхі – Перамогі Хрыста над грахом і смерцю! Няхай радаснае «Алелюя» загучыць у нашых сэрцах, няхай закране душу кожнага чалавека, няхай адорыць усіх новым жыццём ва ўваскрослым Хрысце!

Хрыстос уваскрос! Сапраўды ўваскрос! І мы можам з Ім, у Ім і праз Яго ўваскрэснуць да новага жыцця ў Божай ласцы!

Рада аб'яднання "Бортнік"



### РАДАЎНІЦА

Радуніца, Радуніцкія Дзяды, Вялікдзень мёртвых – свята споведзі, дзень духоўнага прасвятлення, дзень памінання памерлых і асаблівай павагі да сваіх продкаў.

Сустрэўшы вясну, адзначыўшы свята Вялікадня, мы на Радаўніцу ідзём у храм, а пасля – да родных магіл, каб павітаць тых дарагіх, каго ўжо няма побач, каб падзяліцца з імі радасцю веснавога абуджэння і аднаўлення. Нездарма лічаць, што слова «радаўніца» паходзіць ад слова «радасць», па другой версіі – ад слова «род». І тут нельга не пагадзіцца: менавіта ўвесну на могілках не толькі ўспамінаеш сваякоў, якія сышлі ў нябыт, але і сустракаеш радню, якую даўно не бачыў. Да светлага суму далучаецца радасць сустрэчы. Повязь пакаленняў, повязь часу, повязь Роду адчуваецца ў гэты дзень асабліва яскрава.

На Радаўніцу прынята ехаць або ісці да дарагіх магіл, нават калі лёс літасцівы і там не ляжаць самыя блізкія, найбліжэйшыя сваякі. Гэта патрэбна перш за ўсё жывым. А яны, нашы нябожчыкі, са свайго спрадвечнага выраю няхай за нас парадуюцца.

## Нашы мерапрыемствы

# Сезон–2022 урачыста адкрыты




*Свята "Адкрыццё пчалярскага сезону", якое традыцыйна праходзіць з пачаткам вясны, значымае мерапрыемства ў пчалярскім асяроддзі, якое чакаюць на працягу года як пчаляры нашай краіны, так і суседзі. Аднак пандэмія каранавірусу ўнесла свае карэктывы, і мерапрыемства не праводзілася ў 2020 і 2021 годах.*

*У бягучым годзе з наслабленнем санітарна-прафілактычных нормаў было прынята рашэнне правесці свята 9 красавіка.*

*У мерапрыемстве прынялі ўдзел 331 пчаляр Аб'яднання і 36 запрошаных гасцей.*

*Праведзенае свята "Адкрыццё пчалярскага сезону" - гэта не толькі слуханне лекцый аб пчалярстве і абмен вопытам, а і падвядзенне вынікаў года, узнагароджанне пераможцаў праведзеных конкурсаў, ушанаванне "Старэйшых пчаляроў "Бортніка", розыгрыш латарэі, канцэртная праграма. Кульмінацыяй свята стала ўрачыстае запальванне дымара. Такім чынам, пчалярскі сезон адкрыты.*

Матэрыял аб свяце чытайце на 4 і 5 стар.

## Настальгія

# Смілавічы – мая пчалярская маладосць

*Для значнай часткі пчаляроў пасёлак Смілавічы – гэта месца, дзе прайшлі лепшыя гады жыцця, гэта месца, дзе набылі веды і вопыт па любімай справе - пчалярству, гэта месца, дзе сустрэлі першае каханне… Згаданае наталяе душу асалодай непаўторных успамінаў.*

*Пасля вучобы маладыя спецыялісты вяртаюцца да родных мясцін або да вызначанага месца працы. Далей - натхнёная праца з пчоламі, сям'я… Жыццё ляціць імгненна. Аднак застаецца настальгія па мясцінах, дзе правёў лепшы час жыцця. І іншы раз так хочацца вярнуцца ў студэнцкія гады.*

*Мы пастараемся ў гэтым і наступным нумары адправіцца ў падарожжа па мясцінах пчалярскай маладосці.*

*Чытайце і накіроўвайце свае прыемныя ўспаміны на адрас рэдакцыі.*

Працяг на стар. 2-3.

## Дзень памяці

### Максім Багдановіч (1891-1917)



З таго часу прайшло 105 гадоў, як адышоў у вечнасць самы малады класік беларускай літаратуры - Максім Багдановіч. Лёс не быў літасцівы да паэта: страціўшы ў пяцігадовым узросце маці, ён быў звезены з Беларусі ў Расію і здолеў прыехаць пазней на Бацькаўшчыну толькі два разы. І нават апошні свой прытулак знайшоў не ў роднай зямлі, а ў далёкай Ялце, куды паехаў з Мінска па настойлівай просьбе сяброў, каб паправіць здароўе. Але па іроніі лёсу так здарылася, што ў апошні шлях Максіма Багдановіча не праводзілі ні сябры, ні родныя: ён быў занадта далікатным да таго, каб лішні раз звяртаць на сябе ўвагу. Максім добра разумеў, што на гэты раз невылечная хвароба, сухоты, возьме сваё. Нябёсы забралі паэта да сябе ў ноч з 24 на 25 мая 1917, калі яму было ўсяго 25 з паловай гадоў.

Пахаваны паэт у Ялце на Ауцкіх (цяпер Брацкіх) могілках.

**Перадсмяротны верш**

*У краіне светлай, дзе я ўміраю,*
*У белым доме ля сіняй бухты,*
*Я не самотны, я кнігу маю*
*З друкарні пана Марціна Кухты.*

**Не кувай ты, шэрая зязюля,**

*Не кувай ты, шэрая зязюля,*
*Сумным гукам у бары;*
*Мо і скажаш, што я жыці буду*
*Але лепш не гавары.*

*Бо не тое сведчыць маё сэрца,*
*Грудзі хворые мае;*
*Боль у іх мне душу агартае.*
*Думцы голас падае.*

*Кажа, што нядоўга пажыву я,*
*Што загіну без пары...*
*Прыляці ж тады ты на магілу,*
*Закувай, як у бары.*


Тэлефоны «Бортніка»

8-0174-24-68-41

+375 29 696-48-41

+375 29 857-48-41

САЙТ

БОРТНИК.БЕЛ


# Пчаляры «Бортніка» адзначаюць:

***70 гадоў***

*18 красавіка - Гурленя Леанід Мікалаевіч, Салігорскі р-н*

***60 гадоў***

*4 сакавіка-Курыленка Аляксандр Леанідавіч, Ліёзненскі р-н*

*13 сакавіка -Абросімаў Генадзь Віктаравіч, Уздзенскі р-н*

*1 красавіка -Блізнюк Аляксандр Іванавіч, г.Пружаны*

*26 красавіка -Азаронак Мікалай Мікалаевіч, Лепельскі р-н*

***50 гадоў***

*6 красавіка –Бебех Мікалай Мікалаевіч, г.Салігорск*

*19 красавіка –Кірбаль Юрый Мікалаевіч, Жлобінскі р-н*

***40 гадоў***

*9 сакавіка –Майсіевіч Васіль Аляксандравіч,г. Дзяржынск*

*2 красавіка –Ляўковіч Наталля Васільеўна, г.Салігорск*

**Кіраўніцтва «Бортніка» віншуе юбіляраў і жадае моцнага здароўя, шмат шчасця, добрага настрою, поспехаў у працы!**



Настальгія

# Аб мінулым і надзённым
## (З пчаламі – 55 гадоў)


Вежа, складовая частка палацава-паркавага комплексу Манюшка-Ваньковічаў, не рэстаўравана і працягвае разбурацца.


Галоўны корпус УА "Смілавіцкі дзяржаўны аграрны каледж".


Алея кахання, яна злучае навучальную ўстанову з рэчкай Волмай. Менавіта тут бавілі і бавяць час закаханыя студэнты.
Не верыцца, што ўсяго пару стагоддзяў таму па гэтай жа алеі праходжваліся Агінскія, Ваньковічы, Манюшкі і іншая мясцовая знаць. Дух захоплівае!



У лютым 1967 года ўпершыню ў сваім жыцці я пачаў спазнаваць чароўны пчаліны свет. У Смілавіцкай вучэльні пчаляроў, у былым маёнтку пана Ваньковіча, давялося спасцігаць тэарэтычныя веды. А з надыходам лётнага часу praходзіла практыка на школьнай і вучгасаўскай пасеках.

Адзін з нашых выкладчыкаў працаваў адначасова і пчаляром у вучгасе, даглядаючы 100 пчоласем'яў. Мяне ён часцяком браў да пчол, і за гэта яму ўдзячны, што там шмат чаго пазнаў нязведанага. Дарэчы, у той час у школе пчаляроў навучаўся і бацька цяпер знаёмага ўсёй Рэспубліцы ў дынастычнай пераемнасці пчаляра Івана Навумчыка. З усіх колішніх навучэнцаў, апроч мяне, з пчоламі непарыўна звязаны 55 гадоў мой калега і сябар з Хоцімшчыны пчаляр Мікола Баравікоў.

Незабыўны, цікавы, напаўгалодны час юнацтва. Маладосць-прага і імкненне да нязведанага. А чаму напаўгалодны? Стыпендыя была 14 рублёў у месяц. І ўсё. Жыві, як зможаш. Дапамогі аніякай, бо ўсе жылі-выжывалі.

Някепска было таму вучыцца, каго накіравала на вучобу гаспадарка. Выплачвалася грашовая дапамога ў суме 40 рублёў. Тады гэта былі грошы. Абед ў сталоўцы тэхнікума каштаваў 60-80 капеек. Але мы, вясковыя хлопцы і дзяўчаты, былі маладымі і наіўна верылі ў лепшае будучае. Дык што ж уяўляла сабой пчаліная галіна тады ў нашым краі? У той час пчолапасекі былі ў асноўным у грамадскім сектары, звычайна стацыянарныя, памерамі ад 20 да 70 пчоласем'яў. Мода на вандроўку пчол да меданосаў у аддалёныя мясціны была толькі ў таго, хто меў аўтатэхніку, а такіх былі адзінкі. Прыватнік аб гэтым толькі марыў у снах. Працавалі на пасеках людзі ў асноўнай большасці сталага ўзросту, і ім было не да вандровак. Моладзь не хілілася да пчалярства з-за мізэрных заробкаў і нездавальняючых умоў працы. Медазборы ад пчоласям'і ў лепшым сезоне былі ад 3 да 10 кг. Хто дасягаў плёну болей 10 кілаграм з вулля, на семінарах, нейкіх агульных сходах атрымліваў узнагароду ў выглядзе граматы ці нейкі падарунак. Але гэта ўсё было вялікай рэдкасцю.

Шырока бытавала меркаванне, што ў Беларусі нельга атрымаць такіх медазбораў, як у Сібіры ці Далёкім Усходзе СССР.

Працуючы пчаляром на грамадскай пчолапасецы, даводзілася літаральна ўсё выпрошваць:

- машыну (для вывазу пчол ад забруджанага вадаёму ядахімікатамі, да меданосаў);
-каня (для падвозу рыштунку);
-цукар (для падкормкі пчол).

Пагрузіць вуллі і выгрузіць – гэта была праблема пчаляра. Фурманку– павозку (калёсы па-вясковаму) шукай дзе хочаш, бо для калгасных патрэб не хапала. Памятаю, як пасылаў старшыня калгаса ўзяць у вясковай краме цукар на павер, бо ў касе калгаса мыш павесілася – не было грошай. Страчана было шмат часу на лекаванне пчол ад гнільцоў, на выпраўленне абязматачаных, трутовых сем'яў. Цягаючы вуллі ў адзіноце, бывае, запрашаючы на сваю рызыку пабочных вяскоўцаў, у пастаянным недахопе чагосьці (вашчыны, цукру, дапамогі) не кожны быў згодзен на пакуты і выпрабаванні лёсу. Трэба ўвогуле цяпер адзначыць, што пчолы былі для большасці кіраўнікоў гаспадарак цяжарам – "обузой", што навязвалася ім вышэйстаячай уладай. Ад пчаляра з яго просьбамі часцей адмахваліся: пчолы даляцяць, цэлыя будуць і г.д.

Варта ўспомніць і пра тое, як у той час прыватнікі–пчаляры не маглі па шэрагу прычын мець значную, а можа і неабходную колькасць пчол. Пераважна ад адной да дзесяці. Рэдкае выключэнне, калі пасекі былі да дваццаці і болей пчоласем'яў. Не было матэрыялу на вуллі, не было часу вольнага, а галоўная прычына – не дазвалялася. "Уютчыкі" з сельсавета штогод ранній вясной абмяралі межы прысядзібных участкаў, заглядвалі ў хлеў, падлічваючы колькасць хатняй жывёлы, дапытваліся пра колькасць вуллёў пчол. Гэта выклікала ў народзе адмоўныя эмоцыі. Шмат хто ўтойваў звесткі да пары да часу. Збыт пчолапрадуктаў і наогул гандаль праследваўся законам.

Дык ці можна ў такіх складаных умовах дасягнуць нейкага плёну?!

Прымхі і забабоны існавалі ў нашым народзе спрадвеку. А ўсё ад цемры, ад невуцтва. Колькі давялося пачуць усялякіх папярэджванняў ад сталых пчаляроў і іншых вяскоўцаў аб тым, што нельга – гэта ў большасці выпадкаў, а што льга. Накшталт:

– не дазваляй заход таго ці іншага на пасеку чалавека – сурочa;

– ніколі не кажы, колькі маеш вуллёў з пчоламі;

– не давай нічога з рыштунку нікому, бо звядуцца пчолы...

І калі даведваліся нейкім чынам, што зрабіў нешта не так, як раілася, і ў цябе не атрымалася на добры лад – насміхаліся, круцілі пальцам ля скроні. Здаецца, што мінуў час цемрашальства, але і ў нашы дні сустракаюцца людзі з затоенасцю ў размове, баючыся сказаць нешта не так, што можа выклікаць насмешкі ці кпіны з боку суразмоўцаў. Бедны на веды розум працінае часам іншага чалавека наскрозь. Разам з тым, з'явіліся пчаляры–"прафесары", якія ўсё ведаюць аб усім лепш за іншых, а на справе ў іх гаспадарка, як спаленая ўшчэнт скварка.



**Цікава ведаць:**
Згодна перапісу насельніцтва ў Смілавічах налічвалася:
• 1791 год — 564 чалавек (257 мужчын і 307 жанчын);
• 1889 год — 1676 чалавек, з іх 464 хрысціян, 222 магаметан і 990 іўдзеяў;
• 1917 год — 2766 чалавек, з іх 215 беларусаў, 73 палякі, 2102 яўрэі ў мястэчку Смілавічы і 126 чалавек у маёнтку Смілавічы.

Гэта быў экскурс у мінулае. Нехта падумае і ў адмоўны, і ў станоўчы бок. Хочацца сумніўным пажадаць: мерайце ўсё такім мярылам, якое Вам у жыцці адмерана, і будзеце ў спакоі…

Адно з найлепшых мярыл – параўнанне. Што сталася з пчалінай галіной праз 55 гадоў, бо тэрмін у часе даволі значны.

Зараз пчаліная гаспадарка пераважна складаецца з прыватных пасек. На гэтых пасеках налічваецца ад 50 да 300 і болей пчоласем'яў. У пераважнай большасці сучасныя пчаляры маюць уласны аўтатранспарт. Пасекі ў лётны перыяд года вандроўныя і таксама знаходзяцца на колах – на платформах, у вагончыках рознага тыпу. Выязджаць даводзіцца на значныя адлегласці да квітнеючых меданосаў па некалькі разоў. І не дзяды з сівымі барадамі, а сучасныя маладыя людзі трымаюць рэй у пчалярстве.

Медазбор дасягае ад пчоласям'і 20-70 кілаграмаў, а ў спрыяльных, лепшых умовах і да 100 кілаграмаў. І нікога гэта ўжо не здзіўляе.

А хіба можна параўнаць увесь пчалярскі рыштунак, пачынаючы са стамескі і сеткі да твару, што былі калісьці, з сучаснымі вырабамі – касцюмамі, камбінезонамі. Не параўнаць 12-рамовыя вуллі з сучаснымі шматрамачнымі, з платформамі і іншымі прыладамі, якія існуюць пры доглядзе пчол.

Медагонкі з ацынкоўкі, пэўна, заменены сучаснымі з нержавеючых матэрыялаў кожным дбайным гаспадаром, які займаецца пчалінай справай.

Грамадскае аб'яднанне "Бортнік", якое створана больш, як 30 гадоў назад, знаходзіцца ў горадзе шахцёраў Салігорску. Гэта ў нейкай ступені сімвалічна. Шахцёры здабываюць багацце ўнутры зямлі, пчаляры – на паверхні. Зямля – маці ўсіх багаццяў.

У "Бортніку" для пчаляроў Рэспублікі выдаецца адзіная газета "Навіны пчалярства" з патрэбнай паўсядзённай інфармацыяй аб стане ў пчаліным і пчалярскім асяродках. У краме аб'яднання ёсць усё, што патрэбна пчаляру на пасецы. Для тых, хто не можа наведаць краму, неабходныя тавары высылаюцца поштай.

У аб'яднанні "Бортнік" праводзяцца навукова-пазнавальна-святочныя семінары, на якіх з лекцыямі выступаюць навукоўцы, вядомыя пчаляры, аматарскія калектывы.

У Рэспубліцы ва ўсіх больш–менш буйных гарадах маюцца пчалярскія крамы, няхай сабе часам і маленькія, але ж можна прыдбаць неабходнае ўсё для працы на пасецы, насенне меданосаў, лекі для пчол.

Баранавіцкі завод тэхнічнага абсталявання выпускае медагонкі, воскапрэсы і іншае начынне.

Прагрэс у пчалярстве вельмі значны і заўважальны няўзброеным вокам. Калісьці не ўяўлялася гэта ў самым салодкім сне.

З прыкметным шкадаваннем даводзіцца ўспамінаць і параўноўваць з тым, што было і што мае сучасны пчаляр у Беларусі.

Але ўсё, што маецца ў нас зараз, 55 гадоў назад было ўжо ў пчаляроў Еўропы, Амерыкі. Відавочна нельга не ўзгадаць іхнія адмоўныя бакі ў пчалінай галіне. Калі былі закрыты межы Савецкага Саюза, тутэйшыя пчолы не ведалі шматлікіх хвароб, як і людзі.

З адкрыццём межаў пачалі завозіць з іншых краін пчол і - разам з імі з'явіўся букет хвароб. На жаль, і культура народа не на вышыні.

Застаецца занядбанай мясцовая беларуская пчала. Прычынай з'яўляецца ганьбаванне ўсяго свайго, а ўсхваленне прывезенага. А пчолы прывозныя на хваробы розныя.

Хімізацыя сельскагаспадарчых пасеваў не ў меншай ступені пагаршае становішча і нясе вялікія страты пчалінаму і ўсяму навакольнаму свету насякомых, птушак, жывёл. Гэта ж датычыць і людзей, якія спажываюць забруджаныя хіміяй прадукты харчавання.

З павагай да сучасных сапраўдных пчаляроў.

**Алег Белікаў**

Настальгія

# У каждого из нас на свете есть места…



*У каждого из нас на свете есть места,*
*Что нам за далью лет всё ближе, всё дороже.*
*Там дышится легко, там мира чистота*
*Нас делает на миг счастливей и моложе.*

Для многих, кто учился на отделении «Пчеловодство» Смиловичского зооветеринарного техникума (в настоящее время государственного аграрного колледжа), таким местом остались Смиловичи. Редкую и уникальную специальность в республике можно было получить только здесь, и ехали в Смиловичи со всех областей Беларуси, а нередко из Украины, Башкирии, Узбекистана и других республик.

Когда-то Смиловичи называли местечком и жили здесь в дружбе и уважении друг к другу евреи, татары, русские, поляки, белорусы. Жили, не придавая особого значения тому, кто какой национальности. Мирно существовали рядом православные церкви, костел, мечеть и синагоги. Впервые источники упоминают о поселке в 1483 году. На протяжении длительного времени поселок переходил от одного хозяина к другому: Сапеги, Завиши, Огинские. В 1791 году владельцем этих земель стал Манюшко, дед знаменитого белорусско-польского композитора Станислава Манюшко. В 19 веке была построена усадьба, которую называют дворцово-парковым комплексом, она сохранилась до наших дней, хотя частично разрушилась. Эта усадьба представляет культурно-историческую ценность, являясь памятником архитектуры XIX – начала XX веков и охраняется государством. На протяжении нескольких десятилетий этот памятник архитектурной эклектики служил учебным корпусом, где размещались учебные кабинеты и лаборатории специальности «Пчеловодство». Да, да, уважаемые выпускники-пчеловоды, учившиеся до начала нулевых, ваши занятия проходили в здании, где, возможно, когда-то звучала гениальная всемирно известная музыка в исполнении самого автора. А помните, какой толщины были стены, об этом можно было судить по ширине подоконников. Рассказывали, что отопительная система огромного здания состояла из одной печки, расположенной в подвальном помещении, а дымоходы были сделаны в стенах, видимо, поэтому такая толщина стен. Насколько это правда, утверждать сложно, потому что в наше время здание отапливалось централизованно.

В начале двухтысячных дворцово-парковый комплекс был выставлен на продажу и передан новому хозяину, пчеловодное отделение перевели в другой корпус, а в усадьбе начались реставрационные работы, которые ведутся по сей день.

В конце прошлого года колледжу (техникуму) исполнилось 90 лет. В далеком 1931 году по решению Совета народных комиссаров СССР в местечке Смиловичи был открыт сельскохозяйственный техникум с планом набора 60 человек на два с половиной года обучения. Отделение «Пчеловодство» открылось намного позже. А начиналось все с организации в республике годичной школы пчеловодов, и создана она была не в Смиловичах, а в Волме Ивенецкого района Гродненской области в 1956 году. В послевоенные годы перед руководством страны в целом и перед Министерством сельского хозяйства стояла задача обеспечить население продуктами питания, в совхозах и колхозах закладывались сады, организовывались пасеки, ведь пчелы должны были сыграть свою роль в повышении урожайности энтомофильных сельскохозяйственных культур. Возник вопрос подготовки пчеловодов, а возглавить это важное и нужное дело было поручено Голубицкому Виктору Брониславовичу, в то время у него за плечами была сельскохозяйственная академия и институт пчеловодства в Рыбном. Виктор Брониславович в поисках преподавателей для школы пчеловодов дал объявление в журнал «Пчеловодство», тогда это издание было всесоюзным. На объявление откликнулся Шило Иван Петрович из Украины и вскоре переехал в Волму. Потом в коллектив преподавателей влился Вавилов Николай Иванович. В 1963 году школа пчеловодов была переведена в Смиловичи, и вся материальная база, включая учебную пасеку переехала на новое место, а через несколько лет годичная школа пчеловодов переформировалась в полноценное отделение «Пчеловодство». Павловскому Владимиру Ивановичу, преподавателю ветеринарных дисциплин, было поручено вести у будущих пчеловодов «Болезни и вредители пчел», а Леокадия Антоновна Мойса преподавала «Кормовую базу пчеловодства». Так сложился коллектив настоящих профессионалов, любящих и знающих свое дело, преданных пчеловодству и сделавших немало для его развития. Эти люди, приоткрывшие удивительный мир пчел не одной сотне своих учеников, передавшие им свою любовь к пчеле, навсегда остались в памяти благодарных выпускников добрыми, светлыми людьми.

**Тамара Крук, преподаватель УО "Смиловичский государственный аграрный колледж"**



Старажоўка пабудавана ў 1693 годзе.



Цяжка ўспрыняць, але ажурны плот з цэглы прастаяў стагоддзі.



Каля трох дзясяткаў гадоў у гэтым корпусе атрымлівалі веды будучыя пчаляры. Цяпер гэта будынак коледжу не належыць.

Тэхналогія

# ВЯСНА СПАЗНЯЕЦЦА

У красавіку сярэднямесячная тэмпература паветра ў Беларусі складае +7,8°С, на поўначы +6,4°С і на паўднёвым захадзе +9,2°С.

Самым цёплым за пасляваенны перыяд стаў красавік 2000 года, калі сярэднямесячная тэмпература паветра па рэспубліцы дасягнула +10,9°С, перавысіўшы кліматычную норму на 3,1°С.

Найбольш халодным быў красавік 1955 года з сярэднямесячнай тэмпературай + 2,5°С (на 5,3°С ніжэй за норму).

Абсалютны максімум тэмпературы паветра ў красавіку зарэгістраваны 29 красавіка 2012 года на станцыі Лельчыцы, калі паветра прагрэлася да +31,0°С.

Абсалютны мінімум тэмпературы паветра адзначаны ноччу 5 красавіка 1956 года на станцыі Езярышча і склаў -20,8°С.

Па стане за 20 дзён красавіка бягучага года сярэдняя тэмпература паветра склала ўсяго +3,9°С (Мінск). Як бачым, красавік значна халаднейшы за звычайны, вясна зацягнулася. Але як гэта паўплывала на стан пчаліных сем'яў? Спыталі ў бортнікаў:

**Раманчык Юрый Іосіфавіч, Шчучынскі раён, у карыстанні 85 сем'яў, вулей – 16-рамовы і 10 і 12-рамовыя шматкарпусныя на 300+145мм, парода – бакфаст і карніка, тэл. +375 29 762-03-11.**



Вясна запазнілася, а разам з гэтым і развіццё пчаліных сем'яў. Але ж нельга назваць вясну самай халоднай. У маім жыцці здаралася, што і на 9 мая выпадаў снег і было надзвычай халадна. А ў большасці гадоў у трэцяй дэкадзе красавіка я фарміірую пчолапакеты. Гэта паказчык добрага веснавога старту.

Апошні агляд пчол (10 красавіка) паказаў: у сем'ях расплод на 3 рамках, корм у наяўнасці, павелічэння сілы сем'яў не адбылося.

**Вайтовіч Андрэй Мікалаевіч, Бялыніцкі раён, у карыстанні 25 сем'яў, вуллі 10-рамовыя шматкарпусныя на рамку 145 мм, парода бакфаст, тэл. +375 29 391-84-52**

Безумоўна, вясна спазняецца, халоднае надвор'е затрымала развіццё пчол. Па спрыяльнасці для пчол вясну можна ацаніць як дрэнную. А вось цёплае надвор'е 14-15 красавіка дало магчымасць пчолам прынесці нектар і, што вельмі важна, пылок. Развіццё пайшло.

**Круцель Іван Іванавіч, г. Івацэвічы, у карыстанні 90 пчаласем'яў, парода бакфаст і краінка, вуллі Варшаўскі і Дадан, тэл. +375 29 528-77-45.**

Згодзен, надвор'е ўплывае на вясенняе развіццё пчол, аднак яшчэ больш уплывае наяўнасць корму ў сем'ях. Папаўняю кармавыя запасы мядовымі і пярговымі рамкамі і адставання ў развіцці не назіраю. Па стануе на 20 красавіка палова семяў пакрываюць 8-9 рамак, другая палова – слабейшыя і мацнейшыя. Так, ёсць сем'і, якія асвоілі 18 рамак. Параўноўваючы развіццё з мінулым годам, сёлета адставання не назіраю.

А вось меркаванне нашага замежнага калегі.

**Альгірдас Амшэюс, г.Каўнас, Літва.**

Стан перазімавалых сем'яў добры і нават лепшы, чым у папярэднія гады. Але абумоўлена гэта не спрыяльнай зімоўкай або халодным красавіком, а тэхналогіяй утрымання. У зімоўку пускаю толькі здаровыя, моцныя сем'і і з вялікім запасам пяргі. Вось у цяперашні час сіла сем'яў складае 3-4 корпусы на рамку 145 мм, такога раней не было. У халодны красавік не страціў сілы сем'яў, дзякуючы наяўнасці паілак з падагрэвам вады на пчальніку. А вось мае калегі, хто не ўжыў паілкі з падагрэвам, страцілі шмат пчалы. Таму не трэба моцна вінаваціць халодны красавік, веснавое развіццё залежыць у першую чаргу ад пчаляра.

Нашы мерапрыемствы

# Открытие пчеловодческого








**Общественное объединение пчеловодов «Бортник» 9 апреля текущего года в г. Солигорске провело «Открытие пчеловодческого сезона 2022», собрав на традиционный праздник белорусских пасечников. На ежегодном мероприятии пчеловоды и ученые подвели итоги предшествующего периода, а это 3 года с момента последнего «зажжения дымаря», обсудили насущные для отрасли задачи и обменялись опытом пчеловождения. Открытие сезона традиционно сопровождалось выставкой пчеловодных экспонатов, на которой мастера сладкой продукции демонстрировали свои конструкторские решения, специалисты предлагали препараты для поддержания здоровья пчелиных семей, а руководство Союза пчеловодческих организаций «БелАпиЮнион» и объединения «Бортник» чествовало старейших и лучших в профессии.**



**Старейшие пчеловоды Беларуси в рабочем строю.** Сегодня старейшие пчеловодства не только чтут отечественные традиции, но и стараются ориентироваться на новые технологии пчеловождения. Знаем их поименно: из Ивацевичского района - Чечет Эмма Вячеславовна, из Пинского района - Редько Николай Кириллович, из Столинского района - Стемпковский Иван Ильич, г. Осиповичи - Солонович Илья Александрович, г. Жлобин - Кирбаль Николай Иванович, г. Борисов -Тарасюк Игнат Федорович, г. Любань - Мамчиц Инесса Федоровна, из Минского района - Колесник Иван Владимирович, из Несвижского района - Ковалев Тимофей Трофимович, г. Слуцк - Науменко Александр Савельевич и Сороговец Владимир Владимирович, г. Солигорск - Альховский Иван Михайлович, Богушевич Николай Вячеславович, Васильчук Савва Иванович, Клишевич Николай Данилович, Недова Нина Федоровна, Петкевич Николай Александрович, Статкевич Михаил Григорьевич, Усик Василий Васильевич, Хомич Николай Александрович, Якимович Николай Максимович, из Солигорского района - Брановицкий Иосиф Николаевич и Сечко Иван Иванович.

**Официальная статистика и помощь государства.** Представитель Минсельхозпрода РБ **Александр Кравченко** доложил информацию по отрасли пчеловодства, констатируя, что за предыдущий год в пчеловодческих хозяйствах Беларуси всех категорий было получено 2479 тонн меда, в том числе в сельхозорганизациях республики – 621 тонна. Очевидно, что наибольшая доля меда (75%) производится в личных подсобных хозяйствах населения.

**На заметку.** *На 1 января 2021 г. в Беларуси насчитывалось свыше 210 тыс. пчелосемей, в том числе около 33 тыс. в сельскохозяйственных организациях и более 4 тыс. в крестьянских (фермерских) хозяйствах. Остальные 173 тыс. семей находились в личных подсобных хозяйствах населения.*

Как следует со слов представителя министерства, ежегодно из республиканского бюджета выделяется финансирование на удешевление, содержание и разведение племенных пчелиных семей. В Беларуси статус субъекта племенного животноводства имеют КСУП «Брестский пчелопитомник», Полесский государственный радиационно-экологический заповедник и пчелиная пасека РУП «Институт плодоводства». В 2022 году МСХП запланировано выделение средств из республиканского бюджета на сумму 157 920 руб. на содержание 1890 пчелосемей.

**Традиция благополучия.** Председатель объединения «Бортник» **Василий Ковалец** (г. Солигорск),



руководящий общественным объединением 32 года, поздравил пчеловодов с открытием очередного сезона, который в течение последних 15 лет проводится в виде весеннего праздника.

– За отчетный период еще в большей степени усовершенствовалась технология содержания пчел, на пасеках увеличилась численность культурных пород, изменились жилища пчел, а продуктивность семей от этого стала значительно выше.

Первичная из задач белорусских пчеловодов на сегодня – реализация пчеловодческой продукции. У профессионалов отрасли осталось значительное количество нереализованного меда, отдельные пчеловоды называют цифру в десятки тонн. Впереди новый сезон и урожай свежей продукции.

Две основные причины сложившейся ситуации. Первая – в 2021 году собран рекордный урожай меда, вторая – реальное снижение розничной продажи меда. Можем ли мы, простые пчеловоды, повлиять на ситуацию? Да, можем. Это пропаганда здорового образа жизни, включая потребление ценнейших для организма продуктов пчеловодства – меда, перги, пыльцы. Как физические, так и юридические лица должны вкладывать средства на рекламу нашей продукции, по примеру наших прибалтийских коллег. Решится ли эта задача у нас в скором времени? Надежды мало. Но пример должны показать общественные объединения и торговые предприятия.

На протяжении последних 40 лет белорусские пчеловоды ведут борьбу с инвазионным заболеванием пчел – варроатозом. Повышенная заклещенность пчел всегда сопровождается вирусной инфекцией. И чем ниже процент заклещенности, тем меньше вероятность появления в семье вирусных заболеваний как расплода, так и пчелы. Здоровые пчелы по клещу всегда хорошо зимуют, не прогрессирует нозема, дают много товарного меда. Для борьбы с клещом существует много препаратов по торговому наименованию, но очень малое количество по действующему веществу. На сегодня основных три, - флувалинат, флуметрин и амитраз. От правильного их применения, и в первую очередь по срокам лечения и ротации по действующему веществу, зависит благополучие наших пасек.

Далее руководитель общественного объединения затронул вопросы уничтожения работниками сельского хозяйства труда пчеловодов, остановившись на проблеме отравления большого количества пчел на обработанных пестицидами полях. Об этом знают пчеловоды, но «не знают» власти и руководители хозяйств, которым до каждого отдельно взятого пасечника нет дела. Только сообща пчеловоды в диалоге с властью могут решить данную проблему, так как даже в рамках закона с отравлением пчел пасечнику обратиться не к кому. Для этого каждому нужно на адрес общественных объединений предоставлять информацию о нарушении Постановления Министерства здравоохранения РБ № 149 от 21.09.2012, касающегося применения пестицидов на рапсе, которое должно проводиться в поздневечернее и ночное время суток, когда нет лета пчел. Именно указанный документ обязывает владельцев рапсовых полей информировать пчеловода за 5 дней до проведения химических обработок.



«Старейшие пчеловоды «Бортника» (ветераны).

# сезона: всё решаем сообща

По-прежнему остается проблемой неоказание помощи отечественным пчеловодам со стороны государства, которая носит мизерный и чисто символический характер.



**Роль общественных организаций в развитии пчеловодства.** Председатель правления РОО «Белорусские пчеловоды» (г. Минск) – **Сергей Мытько** подчеркнул, что общественные объединения «Бортник» и «Белорусские пчеловоды» состоят из физических лиц, члены которых наиболее активны в своих действиях в направлении улучшения всеобщего состояния, поскольку поодиночке вопросы не решаются. Поэтому профессиональные общественные объединения нужно беречь, сохранять и развивать.

– Эти организации ваши, а не для вас. С помощью объединений пчеловодов можно организовать семинары, конференции и ознакомительные поездки, издавать газеты и журналы, пропагандировать пчеловодство, вести работу с молодежью, что требует активного взаимодействия членов организации с государственными структурами.

Взаимодействие пчеловодческих организаций внутри республики в последние годы укрепляется.



Объявление благодарности активным участникам XXIII Международного Конгресса федерации пчеловодческих организаций «АпиСлавия».

В этом году, используя превентивный метод, они направили в Минсельхозпрод РБ совместное письмо, в котором еще раз напомнили руководству всех уровней о Постановлении Минздрава № 149 и уголовной ответственности по статье №280 УК РБ при нарушении правил борьбы с вредителями растений, повлекших по неосторожности гибель диких животных (насекомых) с причинением ущерба в крупном размере.



**Заслужили благодарность.** Председатель Союза пчеловодческих организаций «БелАпиЮнион», капеллан пчеловодов Беларуси – **Владислав Завальнюк** объявил благодарность и вручил подарки от оргкомитета за подготовку и активное участие в XXIII Международном Конгрессе федерации пчеловодческих организаций «АпиСлавия», который прошел в республике 20 мая 2021 года: председателю объединения «Бортник» – Ковальцу Василию Михайловичу, а также пчеловодам Полонскому Александру Александровичу, Шенделю Игорю Леонидовичу, Каменкову Владимиру Петровичу, Филипповичу Александру Викторовичу.



**Продажа меда на рынках.** Сегодня произвести полезную для человека продукцию пчеловодства легче, чем ее продать, считает пчеловод **Николай Янушкевич** из Ивацевичского района Брестской области, который содержит совместно с сыном более 150 пчелиных семей. Имея образование товароведа, он в своей работе использует все полученные знания.

– Мы продаем свою продукцию на рынках, имея для этого все необходимые документы (паспорт пасеки с отметками, протоколы испытаний продаваемой продукции), не вступая в конфликт с властью и налоговыми органами. Видим своего покупателя, поэтому учитываем в своей работе его потребности, запросы и пожелания.

На рынке следует продавать не менее 4-х видов меда в фасовке различного объема, что больше привлекает покупателя. Мед расфасовываем в красивую тару, а продажу сопровождаем комментариями об употреблении и пользе для здоровья каждого вида меда. Таким образом продаем до 6 тонн меда в год.

Для показа ассортимента используем выкладку расфасованной продукции на вертикальный прилавок. На уровне глаз на прилавок выкладываем наиболее ценный гречневый и вересковый мед. Предлагаем мед с пергой и прополисом, с трутневым гомогенатом и пчелиным молочком. Внизу прилавка размещаем менее ценные виды меда.

Николай Петрович считает, что в продаже всегда должна быть перга хорошего качества, которая продается по-разному. Пергу необходимо очистить от примесей и с помощью подсушивания довести до кондиции, с влажностью 18-20%. Важно рассказывать покупателю о пользе перги разного периода сбора (весенняя, летняя), которая имеет и разную ценность.

Качественный прополис фасуют в пакетики по 20 г, рассказывая покупателю о том, как им лучше распорядиться. В пошлом году также заготовили более 20 л трутневого гомогената с соблюдением технологии (хранение в морозильнике при минус 18°С не позднее 1,5 часов после изъятия, не подвергая облучению ультрафиолетом).

Специально для продажи разводят восковую моль, которую фасуют по 10-12 г, она пользуется растущей популярностью у населения. Для реализации делают из моли настойки в специальных баночках.

Много поклонников имеет мазь «Восковита» на основе воска высшего качества, прополиса и оливкового масла, которая помогает справляться с ожогами, ранами, трудно заживающими швами и пролежнями.

Продажа сотового меда показывает покупателю, что перед ним находится продавец своего товара. Сотовый мед изначально важно правильно сохранить, используя для этого плотное обертывание рамки стрейч-пленкой (растягивающейся), храня в проветриваемом ульевом корпусе.

Пчелиный подмор – товар, который не всегда есть в продаже. Качественный подмор нужно правильно подготовить, быстро высушив его, снабдив покупателя аннотацией о свойствах подмора и правилах применения. Восковые свечи крупный покупатель получает в подарок в качестве бонуса.



В перспективе перед семейной пасекой Николая Янушкевича поставлена задача расширения пасеки и линейки продаж продуктов пчеловодства, в первую очередь за счет производства медовых вин с высокой добавленной стоимостью, что найдет своего потребителя. Планирует семья и проведение акций продаж по более низким ценам, что значительно увеличивает реализацию. Кроме продаж на рынке молодое поколение учитывалась реализацию ассортимента через интернет по заявкам.




Производство кассет для сотового меда у Александра Полонского .

**Конструкторские решения в помощь пчеловодам.** На выставке пчеловодческих экспонатов были представлены приспособления, необходимые для пасеки. Среди 24 представленных на обозрение пчеловодческих экспонатов был проведен конкурс на лучший из них. Созданная комиссия во главе с Александром Товкачем подвела итоги. При оценке учитывалась новизна, сложность и качество изготовления экспоната.

Третье место присудили владельцу фирмы «Диана» из г. Солигорска – **Николаю Гарбацевичу** за производство 10-рамочных полиуретановых ульев (ППУ). Имя представленному улью присвоено – «Сотик».








Изготавливать корпуса 10-рамочных ульев из ППУ на 145 и 300 мм рамки стало также возможным благодаря конструкторскому решению **Павла Пышняка**, которому также присвоено 3-е место за представление пресс-формы из дюралюминия. Производительность изготовления ульевых частей - 2 корпуса в час. Вес корпуса на 300 мм в зависимости от плотности составляет от 1 до 1,5 кг.



Пресс-форма из дюралюминия от Павла Пышняка для производства 10-рамочных корпусов из пенополиуретана





Самодельный парогенератор для вытопки воска от **Лукашевича Виталия** занял 2-е место.





Первое место заслужил незаменимый помощник на пасеке – Апилифт для перемещения ульев, сконструированный **Вячеславом Карозой** для облегчения труда пчеловодов.

**Галина Сафроновская**
**кандидат с.-х. наук**

**Продолжение в следующем номере**

## Прадаць – купіць

**ПРАДАМ:**

- пчоласем'і пароды бакфаст з маткамі F1, кошт і час продажу па дамоўленасці, Салігорскі раён, тэл.+375 29 671 05 64, +375 29 272 68 24, Віталій Іванавіч;
- міні-нуклеусы з рамкамі, якія былі ў карыстанні 3 гады, кошт - 1/2 ад новага, Салігорскі раён, тэл. +375 29 749 67 20 , Сяргей Васільевіч.



## Справы Бортніка

### БОРТНІКІ І СКЛАДКІ

Па стане на 1 красавіка ў склад аб'яднання "Бортнік" уваходзіць 600 пчаляроў, у тым ліку з Брэсцкай вобласці – 92, Гродненскай – 27, Віцебскай -21, Магілёўскай – 52, Гомельскай – 81, г. Мінск і Мінская вобласць – 327.

У 1 квартале заплацілі складкі за бягучы год – 358 сяброў Аб'яднання.

У тым ліку па тарыфе "прафесіянал" -110; -"аматар" - 212; -"сямейны" - 36.

## Комиссия установила, но...





**Ремень Леонид Федорович, г. Осиповичи, пчеловод с 35-летним стажем, в пользовании 120 семей в 12 и 16-рамочных ульях и 40 отводков в 6-рамочниках ППС. Пасека на платформах, кочевая. Тел. +375 29 339 62 07**

Отзыв к празднику «Адкрыццё пчалярскага сезону-2022». Когда получил и прочитал письмо от «Бортника», был рад, что наконец-то встретимся с друзьями и коллегами по пчеловодству. В Солигорск приехал пораньше и, подходя к школе искусств, услышал гул, как в улье в хороший медосбор.

После регистрации прошел в зал выставки экспонатов по пчеловодству. Там встретил коллегу из Глуска Сергея Станевича, он демонстрировал сделанный им станок по изготовлению боковых брусков для еврорамки на 300 и 145 мм. Этот станок значительно облегчает труд и сокращает время по изготовлению рамок.

Стоя у станка, я слышал мнения многих пчеловодов, о том, что этот станок достоин 1 места среди экспонатов, находящихся на выставке.

После решения комиссии по призовым местам многие пчеловоды, в том числе и я, были в недоумении: почему призовые места заняли экспонаты, которые уже выпускаются в производстве.

Мы с коллегами спросили у председателя комиссии Александра Товкача, почему не оценили творческий подход к станку по изготовлению европланки для рамок. Нам ответили, что это инженерная мысль.

Я считаю, что такой станок должен был занять 1 место. Изготовление такого станка действительно инженерная мысль, которая несет колоссальное облегчение труда и экономии времени пчеловода.

В целом праздник прошел на одном дыхании, хорошо организованный, всегда познавательный, всегда для себя находишь что-то новое, простое, доступное, которое легко можно применить у себя на пасеке. Не зря все стремятся посетить этот праздник, он как толчок для работы в новом сезоне. Хочется, чтобы таких мероприятий было больше.

И напоследок красивое стихотворение , взятое из интернет ресурсов:

*Пчелок мерное жужжанье,*
*Их веселый дружный рой –*
*Это символ мирозданья,*
*Это радость и покой!*

*А еще зимою сладость,*
*Золотой тягучий мед,*
*Вот какую дарит радость*
*Пчелки маленькой полет!*

## Смуткуем



**Трагічная вестка прыйшла ў «Бортнік»**

19 сакавіка 2022 года на 69 годзе памёр сябра аб'яднання "Бортнік" з Бярэзінскага раёна

**МАРОЗКА**
**Пётр Якаўлевіч**

Рада аб'яднання «Бортнік» выказвае спачуванне родным і блізкім памерлага







Газета для пчаляроў
**Заснавальнік і выдавец газеты** ТАА «Пчалярства – Бортнік»
**Пасведчанне** № 1742 ад 10 лістапада 2014 года
Перыядычнасць выдання - адзін раз у два месяцы

За дакладнасць інфармацыі адказнасць нясе аўтар артыкула.
Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе дасланыя матэрыялы, не разглядае ананімныя звароты і просіць не высылаць арыгінальныя дакументаў.
Рэдакцыя па сваім меркаванні адбірае і друкуе адрасаваныя ёй лісты, пры неабходнасці рэдагуючы і скарачаючы іх. Ніхто не мае права абавязваць рэдакцыю публікаваць адхіленыя ёй матэрыялы, акрамя выпадкаў, прадугледжаных заканадаўствам аб СМІ. Перадрук толькі з пісьмовага дазволу рэдакцыі.

**Галоўны рэдактар:** Наталля Ляўковіч
**Рэдакцыйны Савет:** Павел Вераб'ёў, Васілій Кавалец, Тамара Жукава, Іна Хаценка
**Вёрстка і дызайн** Іна Хаценка

**Юрыдычны і паштовы адрас:** Мінская вобл., г. Салігорск, 223710, вул. Заслонава, 12
Тэл.: (8-0174) 24-68-41
e-mail: bortnik-saligorsk@tut.by

Кошт свабодны. *Бортнікам- бясплатна*
Выдаецца на беларускай і рускай мовах
**Надрукавана ў ТДА «Знамение»** вул. Каржанеўская, 14, г. Мінск, 220108
ЛП № 02330/85 ад 29.03.2004 г.
**Падпісныя індэксы: 63251, 632512**

**Заказ** № 155
**Тыраж** 1000
Нумар падпісаны да друку 26.04.2022 г.

